Панядзелак, 9 лютага 1920 г. Цана—2 маркі.

# БЕЛАРУСКАЕ ЖЫЦЬЦЁ

ІЛЮСТРАВАНАЯ ЧАСОПІСЬ

Год II. друкуецца ў Менску раз у тыдзень. № 3 (25).



## Мы і яны.

Польская эндэцыя далей сьніць свае салодкіе сны аб анэксыях.

Час прабуджэньня яшчэ ня прыйшоў.

А мо‘ й ніколі для яе ня прыйдзе? Мо‘ яна хоча спаць непрабудным сном да той часіны, калі ў хаце пачнецца пажар, усё будзе абнята полымем і аб ратунку позна было-б думаць.

Тады як польская дэмократыя з сваім комэндантам Пілсудскім на чале зразумела сваю ўласную карысьць і нашу, калі прызнае згодна з кінутымі першы раз у гэту вайну клічамі аб правох да жыцьця малых народаў, правы на істнаваньне і Беларусі,— эндэцыя далей зьяўляецца нашым ворагам, ня бачучы або ня хочучы бачыць нашага нацыянальнага і культурнага адраджэньня.

У сваей сьлепаце яна ня бачыць, што дзесяць-мільённы беларускі народ ёсьць адно цэлае, што амаль з кожным днем усё болей ды болей усьведамляецца, яна хоча прылучыць заходнюю каталіцкую частку Беларусі і ўшчэнт яе споленізаваць, а ўсходнюю—Бог з ёю!—аддаць яе савецкай ці монархічнай Расіі--усё роўна—бо з яе „карысьці“ мала, лух полёнізацыі яшчэ яе не закрануў.

Гэтак, па іхняму беларускай справы няма, гэта толькі нечаясь інтрыга.

Польская дэмократыя разумее справу інакш. Калі-б навет і ня было беларускай справы, дык яе трэ‘было-б стварыць—сказаў нехта. І правільна. Трэба было-б яе стварыць, бо рана ці позна многамільённы ды многапакутны народ зварушыуся-б з свае доўгавечнай драмоты і голасна загаварыў-бы аб сваіх правох. Бо, калі, не чакаючы, паставіць яго раней у гэтакіе варункі, каб ён мог жыць і разьвівацца нормальна і ўвайшоў у вялікую сямью народаў, *як вольны з вольнымі ды роўны з роўнымі,* дык здабудзецца ў гэтым народзе вернага саюзьніка і шчырага прыяцеля, якім ён ужо быў у часіны ня зусім шчаснай сваей мінуўшчыны. Бо адрадзіўшыйся народ беларускі будзе гэтым жывым плотам, які дасьць Польшчы заслону ад аднаго з страшнейшых яе варагаў—Маскоўшчыны, сам дзеля сваіх уласных інтарэсаў баронячыся пе-

рад навалай з усходу. Бо, далей, калі-б і ўдалося анэктаваць частку Беларусі, дык гэтая анэксыя ня толькі, што была-б вечнай косьцьцю нязгоды між палякамі і расійцамі, якіе, пачынаючы ад монархістаў, а канчаючы бальшавікамі, глядзяць на Вільню, Горадзен, Менск, як на „*искони русскіе города*“, але і стварыла-б між беларусамі вечную небясьпечную ірыдэнту.

Як капрыснае дзіця ня хоча чуць разумных слоў, а трапеча нагамі і крычыць у злосьці, каб далі яму спадабаўшуюся цацку, гэтак і эндэцыя, ня гледзячы на прыклады гісторыі, на апошніе недалёкіе прыклады—лёс Расіі, Нямеччыны і Аўстро-Вэнгрыі,—выцягівае прагавітые свае лапы як найдалей на ўсход.

Калі Начальнік Польскай Дзяржавы сваім дэкрэтам абвесьціў аб фармаваньні беларускага войска, варшаўская эндэцкая прэса ударыла ў звон трывогі. „Gazeta Warszawska“ нядаўна, між інш.,пісала:

„... Няма гэтакай дзяржавы на сьвеце, якая пазволіла-б на сваей тэрыторыі клікаць ахвочых у чужые арміі. Чаму і дзеля чаго ў нас робіцца інакш? Дык-жа ўсходніе землі, хаця формальна яшчэ ня прылучаны да Польскай Дзяржавы, але далі ўжо шмат доказаў, што гэтага злучэньня чакаюць ад Польшчы“...

На гэта віленскі орган дэмократыі „Nasz Kraj“ зусім справядліва кажа:

„Няхай „Gazeta Warszawska“ і яе прыхільнікі не палохаюцца. Калі ўтворыцца беларускае войско, дык яно ўтворыцца, ня гледзячы на тое, захочуць гэтага ці не—лідэры эндэцыі, а калі яно ўжо будзе, дык ня будзе тады „варожае і чужое“, але саюзнае, ўдзячнае і памоцнае ў барацьбе з азыяцкім Усходам, будзе яно фундамэнтам вялікай і заўсёды пабеднай ідэі: „Вольные з вольнымі, роўные з роўнымі“...

А гэты кліч мае монумэнтальнае значэньне. Ён вялікімі літэрамі будзе запісаны на страніцах гісторыі абодвых народаў—польскага і беларускага, як вялікімі літэрамі запісаўся на картах польскай мартыролёгіі другі блізкі яму па духу кліч з трагічнага 1863 году, калі жменя дрэнна ўзброеных, галодных і абарваных паўстанцаў кінула ў твар расійкай дэмократыі гордые словы: „за нашу свабоду і—вашу“...

Тагды гэтые словы ня збудзілі ў расійцаў рэха. Але мы, пражыўшые супольна з польскім народам шмат няшчасных часін,—братом нашым, што раней за нас скінулі з сябе кайданы няволі і падаюць нам руку помачы з словамі аб вольнасьці і роўнасьці, ахвоча сьціскаем гэту руку...

Бо гаротнаму беларусу даўно гэтакіх слоў не казалі, бо беларус верыць у шчырасьць прыйшоўшага з добрым словам у яго хату.

**Ф. А.**

---

# Л. Сяменік.*)

„Любая“ рыса пакорнасьці, любасьці супакою і нялюбасьці вайны, рыса, каторую нам стараліся ўмовіць нашые суседзі, дый мы часта самі ўмаўлялі сабе, аказуецца зусім нязгоднай з праўдаю. Сусьветная вайна паказала, што беларусы ня толькі былі адважнейшаю за іншые народы часткаю расійскага войска, але што яны могуць самахоць з аружжам у руках падымацца проці сваіх непрыяцеляў. Паказалі гэта ясна сялянскіе беларускіе паўстаньні проці бальшавікоў. Паўстаньні ў Смаленшчыне, каля Воршы, ў Случчыне, паўстаньні

---

*) Ў газэтах і гутарках Сяменіка часта па абмылцы называюць Семянюком.



**Беларускіе партызаны. (X) Л. Сяменік.**

„зялёных“ у Дзісеншчыне, Браслаўшчыне,*) кажуць самі за сябе.

Найбалей ведамым і жывучым стаў беларускі паўстанскі аддзел Сямéніка, слава аб каторым разышлася на вялікіе прасторы трох губэрняў—Менскае, Магілёўскае і Віцебскае.

Камандзер гэнага аддзелу, Лукаш Сямéнік, родам з Барысаўскага павету, Халопенецкае воласьці, вёскі Траянаўка, дзе яго бацька ёсьць сярэдняй заможнасьці беларускі гаспадар на 6-х дзесяцінах зямлі. Паўстанская дзейнасьць Сямéніка пачалася ў 1918 г., калі яго родные мясцовасьці занялі немцы і там пачаўся зьдзек над сялянамі. Тады Сямéнік пачаў арганізаваць паўстаньне сялян проці немцаў. Сяляне падгатаўляліся ідэйна і ім раздавалася зьбіранае адусюль, тайком аружжа. Напады на мямецкіе каманды былі частые. Сапраўднае-ж паўстаньне проці немцаў узьнялося ў пачатку жніўня 1918 г. ў раёне ад Сянно, Магіл. г. ў Лісічынскай, Халопенецкай і Зачысьценскай воласьці да вёскі Пупелічы. Бальшавікі, каторые перад гэтым дайшлі ўгоды з немцамі, былі проціў гэтага паўстаньня і памаглі яго немцам задушыць, паслаўшы ззаду на Сяменіка броневікі. Паўстанцы былі разьбіты і немцы, спаганяючы злосьць, спалілі вёскі: Слабодку, Халопевецкай вол. і Пупелічы, Зачысьц. воласьці. Некаторые з сялян былі расстрэлены. Сямéнік мусіў хавацца.

Пасьля адыходу немцаў і да прыходу бальшавікоў сяляне Халопенецкае вол. абралі Сямéніка Халопенецкім ваенным камісарам. Як прышлі ў Халопенецкую в. бальшавікі, яны, будучы нязгодны з кірункам Сяменіка, яго арыштавалі і пасадзілі ў барысаўскую турму, адкуль потым перавялі ў Менскую турму. Ня гледзячы на пастановы аб асвабаджэньні сходаў сялян, каторые любілі Сяменіка, як свайго героя, абароньніка, Сяменік усё ж такі ня быў выпушчаны. 27 мая 1919 г. яго з Менскае турмы перасылалі ў барысаўскую. Па дарозе Сяменік уцёк. Ў Барысаве галоўны бальшавіцкі рэволюцыйны трыбунал завочна прысудзіў яму кару сьмерці.

Уцёкшы, Сяменік з людзей, каторые, ня хочучы ісьці ў чырвоную армію, ўцякалі ў лясы, арганізаваў паўстанскі „зялёны“ аддзел і стаў у задох нападаць на бальшавікоў. Ў гэтым часе ён захапіў у бальшавікоў тры воласьці: Халопенецкую, Красналуцкую, і Зачысьценскую, дзе забраў усю бальшавіцкую маемасьць, паміж іншым шмат тэлеграфных апаратаў. Бальшавікі, спалохаўшыся, паслалі туды большые сілы і „зялёные“ Сяменіка ізноў адышлі ў лясы.

З часам як польскае войско падышло пад Барысаў, Сяменік паслаў

*) Браслаўскі—начай Новаалександраўскі павет Ковенскае губ., дзе беларусы паднялі паўстаньне проці бальшавікоў на чале беларускімі дзеячамі капітанам Бондар-Нарушэвічам і унтэр-афіцэрам Пётрам Гірдзюком.

да польскае каманды свайго дэлегата і, ведаючы добра мясцоваcьць, свой аддзел разам з 3-м польскім уланскім палком завёў пад Прыяміно ў зад бальшавіком. Абойдзеные, бальшавікі барджэй пачалі ўцякаць з Барысава.

Пасьля гэтага аддзел Сяменіка ўвесь час аставаўся на фронце. Харчы сабе і вопратку аддзел прымушаны быў здабываць ад бальшавікоў сам. Пры гэтым розную ваенную здабычу, захопленую ў непрыяцеля, ён павінен быў перадаваць польскай ваеннай уладзе. Ў верасьні летась польская ваенная ўлада пачала выдаваць для аддзелу Сяменіка харчы, хоць, як кажуць, неакуратна, але вопратка і абуцьце не выдаваліся і героі Сяменіка ажно да апошняга часу хадзілі ў парванай вопратцы і блізу босые. Нястача ёміны, харчоў і труднасьць дастаць вопратку і абуцьце, а так сама доўгае быцьце на пазыцыі былі прычынаю пошасьці тыфусу, на каторы пачалі хварэць у аддзеле Сяменіка летась у апошніх днёх лістапада, і аддзел быў адведзены ў зад у м. Смолевічы.

Ў апошні час польская вайсковая ўлада як належыць ацаніла Сяменіка і яго аддзелы. Загадана выдаваць аддзелу акуратна ёміну, пэнсію і выдаць абмундыраваньне. Разам з гэтым Сяменіку даручана на фронце дзяржаць разьведку і дазволена пашыраць далей свой аддзел, прыймаючы ў яго самахвотнікаў.

---

Далейшае апісаньне беларускіх партызанаў дамо ў чародным нумары.

**Ст-іч.**



Беларускі хор у Менску. (×) Кіраўнік хору п. Тэраўскі.

# Беларускі хор.

Беларускі хор пад кіраўніцтвам Тэраўскага пачаў сваю працу яшчэ ў студні месяцы 1915 г. Ў ліку пятнаццацёх асоб, пяўцоў аматараў ён пачаў выступаць у менскіх шпіталях для хворых ваякоў, маючы ў сваім рэпэртуары ня больш дзесяцёх беларускіх народных песьняў. Спачатку, ведама, публіка крытычна аднеслася да беларускіх песьняў. Але хор не пераставаў працаваць і з кожным разам усё больш знаходзіў сабе прыхільнікаў. Вельмі горача віталі хор ваякі - беларусы, пачуўшы свае родные песьні. Яны пачалі даваць хору свае вясковые песьні, і рэпэртуар з тых часаў пачаў павялічацца.

Ў 1916—17 г. хор даў шмат канцэртаў у Юбілейным Доме і яшчэ больш зацікавіў публіку. Ў тым-жа 1917 г. хор далучыўся да Перш. Т-ва Бел. Драмы і Кам. і яго праца пайшла ў шырокім масштабе. Дзякуючы добрым варункам, у якіх ён знаходзіўся ў той час, лік асоб хору павялічыўся да 50 чалавек. Аб ім стала чутно ня толькі ў

Менску, а амаль па ўсей Беларусі. Ў сучасны момант хор у ліку 40 чалавек, працуе ў Таварыстве Працаўнікоў Беларускага Мастацтва, да якога далучыўся ў жніўні 1919 г. Рэпэртуар яго цяпер абымае болей за 200 беларускіх песьняў. Частка з іх—народные песьні, гарманізованые п. Тэраўскім, частка-ж уласнай яго музыкі.

Ў апошніе часы п. Тэраўскі заняўся укладаньнем зборніка беларускіх ваяцкіх песьняў для беларускага войска. **М. К.**

* * *

**Ахвярую Беларускаму хору Тэраўскага.**

*Гэй! Сьпявай-жа мацьней на прадвесьню,*
*Мо, хутчэй да нас прыдзе вясна,*
*Сьпявай родную, пекную песьню,*
*Будзі край наш ад цяжкага сна.*
*Няхай песьня далёка нясецца,*
*Хай разбудзіць таго, хто шчэ сьпіць,*
*Ува ўсіх тагды сэрцо заб'ецца,—*
*Ня захочуць далей гэтак жыць...*
*Аб мінулым нам песьня гавора,*
*Што і мы калісь вольна жылі...*
*Дык сьпявай ж апра радасьць і горо,*
*Роднай песьняй хоць нас весялі!*
*Захавалась яна пад прымусам,*
*Як жылі у няволі ўпярод...*
*Калі песьня жыве беларуса,*
*Будзе жыць беларускі народ!*

**М. Кудзелька,**

# Сымфонія. *)

**Я. Купале ахвярую.**

* * *

А яна, мая каханая, ўсё роўна прыходзіць ка мне што ноч. Не адстае Доўга - доўга яна пазірае на мяне. Глыбока-глыбока глядзіць у самые вочы, покуль не ўскача з вялікім страхам, дрыжучы ўсім целам, як асінавы ліст.

— Ты нешта задумаў проці мяне.. — шыпіць яна хрыпла—ты хочаш мяне згубіць, няшчасны... А я табе гэтулькі шчасьця дала! О, ня муч мяне!

Яна падае воб-зямлю. Доўга ляжыць нярухома. Мне здаецца, што гэта дзікая качка канае ў явары. Яна цяжка ўздыхае і жаласьць агартае мяне.

Ўсё цело яе пачынае бляднець, відочна мяняе колер, нібы небо на ўсход сонца, калі зара пачынае сыходзіць з небасхіля. Вочкі яе зажмурываюцца, броўкі сіняватые дрыжаць, нібы скрыдлачкі балотных мятлічак, а ўсьмешка слабая блукае на яе малінавых губках. Грудкі яе чуць вахтаюцца. І напамінае яна мармурную статую, якую Жыцьцедаўца абдарыў жывою душой, а душа толькі пачынае ўвабрацца ў цудна-каменнае цело...

— Я твой! Я твой! — стогну я няпрытомна...

* * *

— Упыр хутка ўгоне цябе ў магілу, — пужае мяне варажбітка, — а сам вінаваты. Во, бачыш, ты ледзь на нагах трымаешся. Ты зрабіўся, як той выбіты колас. Ўвесь сок моладасьці ты ей аддаў. Ты пасьціся тры суткі. Апроч таго я дам табе лякарство.

І яна мне дала бутэлечку з нейкай зялёнай жыжкай.

— Калі яна яшчэ адважыцца да цябе прысьці, дык ты абмакнеш мізінец правай рукі ў гэтае лякарство і тыцнеш ей у вочы; калі гэта не паможа, дык дакранешся ім да яе грудзей па левай старане, там дзе сэрцо...

І бабулька зашаптала новы загавор:

„Згінь ты, пякельны зьмею-гадзюка, што Эву абдарыў яблыкам грэшным, пакусным! Прападзі ты, дух благі, што нашага прашчура Адама супраціў Госпада Бога павёў па блудных, крывавых сьцежках!

„На вошта, Адам, ты прынёс горо ўсім? Ты пераступіў забаронёную мяжу і перайшоў ад сьвету да цемры, ад шчасьця да сьлёз, ад жыцьця да сьмерці. Сваю пакуту ты пакінуў дзецям сваім у спадчыну. На вошта ты гэта зрабіў?

„Ой, трудна-трудненька выпутацца з жалезных рук Шайтана. Мы ад яго ўцякаем, а ён сядзіць захованы ў нашай душы ды толькі кпіць з нас....

„Сьвяты Крыж, прыдзі на ратунак і зьнімі агіду чорную з душы чалавечай! Кроў Езуса ачысьціць нашу кроў. Яго мукі выкупяць нашые мукі..

*) Гл. „Б. Ж." №№ 1 (23), 2 (24).

Згінь, зьмей грэху! Зьгіньце пакусы цела нашага, якое сатворано з зямлі, як зьвер лясны, як былінка ў полі, як рабак пад каменем.... Згінь, дух процьмы, паскудны вырадак вотхлані! Амэн!“

* * *

Тые тры дні, што я пасьціўся, упыр ка мне не паказываўся, а на чацьвёрты дзень зноў прышоў у вобліку дзяўчыны...

Кволая, томная, чуць жывая была яна. Правай ручкай сваёю за грудзі трымалася. Пад зьяньнем месяца я працягнуў да яе свае рукі і зусім забыўся, што перад сном абмакнуў мізінец правай рукі у зялёную жыжку старай варажбіткі.

Дзяўчынка наткнулася тварам на мае рукі і вачыма напала на мой мізінец правай рукі...

Слабы крык вырваўся з яе грудзей і яна, як ад агню, адкінулася назад.

— О, што ты зрабіў, няшчасны? Ты мяне асьляпіў...

І яна зарыдала - заплакала аб тым, што болей мяне не пабачыць і пачала шукаць мяне ручкамі сваімі, ўсім целам, якое пабялело, як малако.

І была яна падобна да макуцьвятку, сарванага са сьцябла, які плавае ў ручаі і ня можа да берагу прыстаць.

— Дзе ты? Дзе ты?—шаптала яна пабляднеўшымі вуснамі і плакала горка, як малое дзіцё. І кожнае слово яе лілося ў мае грудзі, нібы шэпты жыта ў полі. І была яна пекная, дзіўна прыгожая, як сама маці грэху, якая вабіць сваім выглядам слабых душою людзей.

Я ня вытрываў і кінуўся са стогнам асалоды ў яе абоймы. Але неспадзеўкі даткнуўся мізінцам правай рукі да левага бок яе грудзей.

Дзіка, жудасна крыкнула яна і ўпала, як падрэзаны чарот. Хацеў падняць яе, але замест дзяўчынкі я ўгледзіў груду касьцей чалавечага шкілету...

* * *

І як-бы вырваўся я з цёмнай, гнілой яміны на сьвет Божы, на зямлю радасную, сонечную. І кроў налілася ў жылы мае. І сілы мае вярнуліся і радасьць зацьвіла ў грудзёх, маіх як кветка вясьняная...

*Канец.*

**З. Бядуля.**

Пасадзец 1918 г.



*Рыс. Драздовіч.*

## НАШЫ ПЕСЬНЯРЫ.



**Констанцыя Буйло.**

„...Эротычная інтуіцыя—гэта характэрная азнака творчасьці К. Буйло, і з гэтага пагляду мы маглі-бы назваць „песьнямі каханьня“ вершы яе, сабраные у томіку пад загалоўкам „Курганная кветка“ (Вільня, 1914 г.). Але гэтым не абмежываюцца тэмы яе вершаў, бо, пры яе інтэлектуальным разьвіцьці, жыцьцё вабіць яе ўсімі сваімі праявамі“...

(Антон Навіна. „Нашы песьняры“).

Цяпер К. Буйло знаходзіцца дзесьці ў савецкай Расіі і ўжо колькі гадоў, як мы ня маем аб ёй ніякіх вестак.

## У ПОЎНАЧ.

**(З беларускай міфалёгіі).**

*У саму поўнач муж благой вядзьмаркі*
*Праз чорны комін да яе ляціць.*
*Ен—нечысьць пекла, хітры чорт і шпаркі.*

*Ен да магілы мусіць ей служыць.*
*Як замільгае зьмеям беласьнежным,*
*Дык ей ня трэба ў беднаце тужыць:*

*Мукі і сала будзе мець бязьмежна—*
*Мазольна праца скрыўджаных людзей.*
*Як запалае вогнішчам начлежным.*

*Дык залатые скарбы нясе зьмей:*
*Ой, кроў людзкая, сьлёзы небаракаў...*
*Ой, пот сіротак, змучаных дзяцей...*

*Як прыляціць ён чорнаю вужакай,*
*Дык сьмерць надыйдзе зьявай цемнаты*
*І загуляюць страхі-ваўкалакі,*

*І затрасуцца дрэвы і кусты.*
*Крыжоў ня зьлічыш на магілах сьвежых...*
*Ой, сьцеражы нас, Божанька Сьвяты!..*

**Ясакар.**

1920 г.—Менск.

**Расьціслаў Салоўкін.**

## Хаткі над возерам*).

Калі лес там, дык лес—
Можна тыдзень дыбаць...
**Якуб Колас.**

Па скапчэньні работ кожны з нас меў ў сябе ўдома які-небудзь трофэй, як відочны доказ трыумфу культуры над дзікаю сілай.

Але адзінокі і неазброены чалавек, няхай сабе найадважнейшы, ня вельмі ўцешыўся-б пры блізкай знаёмасьці з гэтымі старажамі лесу.

Паглядзімо цяпер, якіе скарбы, апрача самога лесу і яго жывых насельнікаў, гэтак заўзята вартуюцца прыродаю ў Т—скай пушчы. У гэтым сэнсе нашые выведы далі шмат цікавых сюрпрызаў. Гэтак, ў адным балоце намі была выяўлена прысутнасьць радыя (вельмі дарагі хімічны элемэнт, які рэдка дзе трапляецца),—ў другім жалеза, фосфару; мы набрылі на дзьве крыніцы, падходзячы да якіх здавалося, што спушчаемся ў пекло,—гэткі моцны пах серкі з іх выходзіў.

Цяпер, пасьля 11 гадоў, цяжка прыпомніць ўсе тые цуды, якіх поўна была Т—ская пушча, але ў свой час намі быў зроблены Міністэрству Шляхоў Расійскай Імпэрыі дэталічны даклад аб гэтым і калі гэтые, схованые, сілы прыроды дасюль ня выкарыстаны, дык віна ня наша.

Але найбольшым для нас сюрпрызам было здарэньне на пятым тыдні работы.

Зразумейце сабе нашае зьдзіўленьне, калі мы аднаго разу, знаходзячыся, як мы меркавалі, ў самым цэнтры пушчы, найменей, вярстоў за 20 ад найбліжэйшай сялібы, сярод гэтай някранутай прыроды ўбачылі... пень ад сьвежасьсечанага дрэва!..

Першай нашай думкаю было, што

*) Глядзі „Б. Ж.“ № 2 (24).

мы абмыліліся ў рахунку пікетаў*) роўна ўдвае, альбо, што Т—ская пушча няправільна нанесена на пляне, якім мы карысталіся пры выведах і што працяжнасьць масыву ў даным кірунку менш паказанай на пляне роўна ўдвае.

Але так, ці йначай, а відаць было, што мы знаходзімся недалёка ад канца лесу, таму што пні трапляліся ўсе часьцей ды часьцей.

Нарэшце, паміж дрэваў бліснуў прамень сонца і, праз некалькі мінют, мы вышлі з-пад купалу лесу на сьвет Божы.

Мы апынуліся на маляўнічай палянцы ў 400—500 дзесянцін.

Па сярэдзіне гэтай палянкі люстрам блішчало двадзесянцінковае возеро.

Берагі возера былі плыткіе і пакрываліся найлепшымі сенажацямі, вышэй—возеро абхаплялося колам палёў; яшчэ вышэй ішла паласа гаролаў. У пяцёх, ці ў шасьцёх месцах былі раскіданы фруктовые садочкі і сярод кожнага з іх мы ўбачылі, крытую гонтамі, чысьценкую хатку й каля яе будынкі. Кожны такі садочак быў абгароджаны плотам вышынёю ў сажань, а ад варот плоту, па радыюсе, ішла дарога да возера.

Далей ізноў было поле і ўсё гэта ахаплялося зялёна-чырвоным колам лесу, з якога мы толькі што выйшлі.

Па процілежнаму ад нас спаду катлавіны шпарка нёс свае воды, даволі шырокі ручай, да таго дужы, што на ім быў зроблены стаў і пастаўлены млын.

Нам не ўдалося выясьніць, дзе й як выцякаець з возера лішняя вада, якая прыносіцца ручаём, але трэба думаць, што тут мы мелі інтэрас з надглебным праходам вады ў суседняе балото.

Як зачарованые стаялі мы на краі лесу і не маглі адарваць пагляду ад ляжаўшага прад намі малюнку,—так ён быў неспадзеўны, нязвычайны й пригожы.

Але вось адчынілася брама аднаго з садочкаў—надворкаў і адтуль выскачыў хлопчык. Ён, шпарчэй ласіхі, прабягае прастор ад яго да возера. Тут мы бачым, што гэта прыгожы хлопчык гадоў 11—12.

Адным шкаркім рухам ён скідае з сябе адзежу, якае складаецца з доўгае белае сарочкі, падпярэзанай чырвоным поясам, і памалу пачынае ўходзіць і сьцюдзёную ваду возера.

*) Калочкі, што ўбіваюцца ў зямлю праз кожные 50 саж.

Не заўважаные купальшчыкам, мы падышлі да процілежнага берагу й гукнулі да хлопчыка.

Трэ' было бачыць выраз яго твару ў тую мінюту, калі ён убачыў нас!.. Рот яго разявіўся, вочкі вырачыліся, ну, саўсім гэтак, як у нашага хлопчыка—рабочага Габрусіка, калі мы першы раз спаткалі медзьвядзя!..

Першым інстынктыўным рухам малыша было—пайсьці нурца; але таму што ён раптоўна і, мабыць, з пярэпалаху, запомніў пра свой разяўлены ад зьдзіўленьня рот, дык праз момэнт ён ізноў паказаўся над вадою й, кашляючы, чыхаючы, капыцячыся й падаючы, кінуўся ўцякаць да берагу. Дасягнуўшы да зямлі й, як відаць, жадаючы трымаць „невядомага ворага“ на добры адлог ад сябе, хлопчык, ня спыняючы бегу, пачаў кідаць на нас каменьнямі.

Праканаўшыся, што яго „кулі“ не дасягаюць да цэлю і што „недалёт“ іх роўны большай палове адлогу ад нас да яго, неспадзяваны вораг наш пакінуў гэту некарысную работу і ўжо, не азіраючыся, пачаў шыбаць пад страху бацькавага дому. Нашые заспакойваючые крыкі толькі паддавалі дыхту яго нагам.

Калі хлопчык, справаджаны нашым дружным рогатам, схаваўся за брамаю, мы рушылі ў тым самым кірунку, абыйшоўшы раней возеро і захапіўшы з сабою гэтак лёгка трапіўшую да нас здабычу—сарочку і пояс хлопчыка, аб якіх ён запомніў ў часе свайго пасьпешнага ўцёку.

Тым часам, ў вёсачцы пачаўся рух. З хаты ў хату, махаючы рукамі й аб нечым нэрвоўна размаўляючы, перабягалі мушчыны, кабеты і дзеці й калі мы падышлі да брамы, за якою схаваўся хлопчык, тут ужо сабралося ўсё насяленьне вёскі—чалавек 25—30.

На чале групы стаяў белы і, здавалося, празрасты, як месяцаў сьвет, стары гадоў 80—адзін з раданачальнікаў і заснаўцаў вёсачкі.

Вось, у кароткіх рысах гісторыя гэтага нязвычайнага сяльца, якую нам расказалі насельнікі „Хаткаў над возерам“, як мы назвалі знайдзёную намі вёсачку.

У пачатку 50-ых гадоў прошлага сталецьця адным з памешчыкаў Р-скага павету было адпушчана за асобные заслугі, аб якіх будзе гутарка ў другім нарысе, на волю шэсьць сялянскіх семьяў. Закупіўшы на адтрыма-

ные ад таго самага памешчыка дзьве тысячы рублёў серабром, жывы й няжывы інвэнтар, сяляне пайшлі шукаць месцо, дзе можна было-б набыць зямлю і заснаваць гаспадарку.

Але, зьбіўшыся з дарогі і заблудзіўшы ў нетрах пушчы, яны не маглі выбрацца з яе і, пагубляўшы ў дарозе большую частку людзей, што сталі ахвярамі балот ды дзікіх зьвяроў, двое мушчынаў, дзьве кабеты й чацьвёра дзяцей з дзесяткам вялікага быдла, паўтузінам дробнага і з часткаю скарбу, пасьля страшэнных высілкаў, выбраліся на палянку над возерам.

Далейшые спробы выйсьці з лесу не давялі ні да чаго.

Абгаварыўшы гэткае палажэньне людзі пастанавілі часова асесьці тут, тым болей, што як людзі, так і жывёла, саўсім змагліся.

Збудавалі першую хатку й адрыну, абгарадзілі плотам, засеялі кавалачак зямлі й пачалі жыць, чакаючы падмогі звонку.

Але праходзілі дні, тыдні й месяцы, а падмогі ня было.

Так прайшоў год. Ніўка дала дзіўны ўраджай; ў возеры рыбы, а ў лесе дзічы было скольki ўлезе, толькі не лянуйся, стаўляй сеці ў воду ды сільля ў лес—сыты будзеш!

Дарослые людзі склалі дзьве сямьі, пабудавалі другую хату, падзялілі міжы сабою, што засталіся жывымі, чужых дзецянят і ўжо чакалі сваіх.

Жывёла ў гэтым апошнім сэнсе не адступала ад сваіх гаспадароў і, гэткім чынам, патросі нарыхтоўвалася моцная гаспадарка.

Спачатку пасяленцы адчувалі адсутнасьць солі, але калі за дзьве вярсты ад палянкі яны знайшлі салявую крыніцу й пачалі з яе выварваць соль, на наш выпешчаны смак, досіць горкую і з моцным няпрыемным пахам,—палажэньне іх моцна палепшылося і жыцьцё стала амаль што нормальным.

*(Далей будзе).*

З расійскае мовы пераклаў

*Краўцоў Макар.*



**Беларускі пэйзаж.**

# Політычная кроніка.

— Савецкі ўрад зьвярнуўся да Польшчы з прапазыцыяй аб утварэньні міру, на ўмовах прызнаньня за Польшчай тэрыторыяў, якіе належаць да цяперашняй лініі фронту, занятага польскімі войскамі. Ў політычных кругох дапускаюць магчымасьць мірных перагавораў.

— Эстонія ўтварыла мір з савецкім урадам.

— Бальшавікі занялі ўсю Сібір. Калчак забіты (?).

— Армія Дэнікіна зусім разьбіта. Дэнікін з сваім штабам уцёк у Константынопаль.

— Антанта пачала таварааб-мен з Расіяй праз коопэратывы.

— У Гэльсынгфорсе адбылася конфэрэнцыя прыбалтыцкіх дзяржаў, на якой прынята рэзолюцыя аб супольных чыннасьцях проці бальшавікоў.

— На Украіне ўзноў пачалася організацыя украінскай арміі. На чале украінскага ўраду стаіць Мазэпа.

— Латышская армія пасьпешна далей вызваляе тэрыторыю Латвіі ад бальшавікоў.

— Польскіе войскі, пасьля ратыфікацыі мірнага трактату занялі землі ў Прусіі, што адышлі да Польшчы.

— На плебісцытные паміж Нямеччынай, Польшчай, і Чэхіяй тэрыторыі, прыбылі ангельскіе, францускіе і італьянскіе войскі.

— Антанта прызнала незалежнасьць Грузіі, Арменіі і Азэрбэйджану.

— Англія маніцца пачаць мірные перагаворы з бальшавікамі.

— Ў Нямеччыне нарыхтавываўся монархічны пераварот. Ранены міністар Эрцбэргэр.

— Антанта запатрабавала выдачы Вільгэльма. Голяндскі ўрад адмовіўся.

— Ў Ірляндыі вядзецца ўпартае змаганьне за незалежнасьць.

— Эгіпэцкіе ўмераные кругі патрабуюць прызнаньня незалежнасьці Эгіпту.

— Ўся Украіна занята атрадамі паўстанцаў. Усе мясцовасьці паўднёвай Украіны ў руках украінцаў.

— Антанта прызнае Бэсарабію за Румыніяй.

— Румынія пачынае мірные перагаворы з бальшавікамі.

— Ў Амэрыцы кандыдатам у прэзыдэнты зьяўляецца Гоовэр.

— Ў Эстоніі гэн. Булак-Балаховіч фармуе беларускіе атрады.

— Ў зьвязку з здарэньнямі апошніх дзён варшаўскіе палітычные кругі зацікавіліся лёсам Беларусі.

— Соцыялістычные кругі розных краёў паднялі пытаньне аб адбудаваньні другога інтэрнацыяналу.

# Менск.

## Прыезд Я. Пілсудскага ў Менск.

Ў хуткім часе мае прыехаць у Менск Начальнік Польскага Гаспадарства п. Я. Пілсудскі.

### Адміністрацыйнае жыцьцё.

— Начальнік Менскага Округу п. Ў. Рачкевіч, у апошні час два разы выязджаў у Вільню па пытаньням адміністрацыйнага і організацыйнага характару.

— Упраўленьне Менскага округу пераходзіць у хуткім часе ў новы будынак на рагу вул. А. Міцкевіча і Серпухаўскай.

### Грамадзкае жыцьцё.

— Хутка адбудзецца першае пасяджэньне зноў выбранай Менскай мястовай думы. Кандыдат у бургомістры яшчэ ня выяўлены.

— Нядаўна адбыліся выбары ў жыдоўскую абшчыну. На выбарах перамаглі сыяністы.

— Ў Менску ў апошніе дні быў зроблены рад скарбоначных збораў на карысьць безпрацоўных, багадзельняў і прытулкаў. Насяленьне вельмі прыязна ахвяровывало.

— Ў Менску організуецца новае т-во этнографіі Беларусі.

### Харчы.

— Харчовае становішчо Менску ня зусім добрае. Падвоз сельска-гаспадарскіх прадуктаў у апошні час значна зьменшыўся. Сяляне неахвотна едуць у горад. Так сама спыніўся падвоз прадуктаў з Польшчы, з прычын спыненьня руху чыгункі. Прадукты даражэюць з кожным днём. Галоўным чынам, дорага каштуюць тлустасьць і дровы.

— Адміністрацыя стараецца наладзіць выдачу прадуктаў насяленьню па картачках. Да гэтага часу, аднак, нічога не патрапілі зрабіць. Думаюць, што ад 1-га марца ўдасца наладзіць выдачу хлеба на карткі.

### Гандаль і прамысловасьць.

— Ў гандлёвым жыцьці Менску цяпер, з прычын спыненьня руху на чыгунцы, пануе зацішшо. Тавараў у Менск прыходзіць вельмі мала. Малое так сама і запатрабаваньне на іх. Ёсьць вялікае запатрабаваньне на такіе тавары, якіе адгэтуль выпраўляюцца ў савецкую Расію: сахарына, мэд, камэнты, каменчыкі для красаньня агню і г. д. Цэны на гэтые тавары вельмі высокіе і прадаюцца ў царскай валюце.

— Некаторые тавары ў Менску цяпер танеЙ чымся ў Варшаве. Многіе варшаўскіе купцы закупляюць тут тавары для вывазу ў Варшаву.

— Ў Менску адчынено некалькі новых прадпрыймстваў—гарбарні, майстэрні, хіміка-формацэўтная лябораторыя.

— Адчынены Беларускі Народны Банк. Ініцыятар—К. Тарэшчанка.

— Біржа працуе ў Менску пасьпешна. Курс польскай маркі—62—65 царскіх руб. за 100 марак. Вельмі дарагіе пяцьсоценные царскіе білеты. Думкі вельмі патанелі. Але іх мала прадаюць. Ў вялікім запатрабаваньні нямецкіе

маркі і заграні́чная валюта наогул. Керанкі і савецкіе вельмі танны. Запатрабаваньня на іх няма, бо і ў Расіі яны лічацца таннымі.

**Коопэрацыя.**

Ў мясцовых коопэратывах ідзець энэргічная праца. Закуплены вялікіе партыі тавараў у Польшчы і заграніцай. Адчыняецца шмат новых коопэратываў. Ў цэнтр. рабоч. коопэратыве адбываюцца гэтымі днямі выбары новага праўленьня.

— 15-га марца адбудзецца зьезд поўнамоцных цэнтральнага саюзу спажыўных коопэратываў беларускага краю.

**Эпідэміі.**

Ў горадзе пануюць эпідэміі плямістага і зваротнага тыфусу і гішпанкі. Аддзел абароны здароўя ня мае магчымасьці змагацца, бо патрэбны аграмадные грошы, а іх няма. Усё-ж пастаноўлена адчыніць пошасны шпіталь на 100 хворых.

**Злачыннасьць.**

Злачыннасьць у Менску вельмі пашыраецца. Асабліва церпяць ад бандытаў ваколічные сяляне і мясцовые гандляры. Крымінальная паліцыя затрымала многа грабежнікаў і высачыла некалькі шаек.

**Тэатр і музыка**

Балям, концэртам і вечарынкам няма канца ў Менску. Час ад часу прыязджаюць у Менск розные артысты, музыканты і інш. з Варшавы і Расіі. Выступаў тут скрыпач Фрыдман. Прыязджала Сьвятлова. Мясцовая консэрваторыя організавала цыкл гістарычных концэртаў. У гарадзкім тэатры пры малых зборах іграе польская трупа. У інтымным—жыдоўская трупа, якая мае вялікі усьпех.

Беларуская трупа іграе адзін раз ў нядзелю—ў гарадзкім тэатры і так сама мае значны усьпех. У Менску ёсьць многа безработных расійскіх артыстаў.

**Профэсыянальнае жыццё.**

Профэсыянальнае жыццё у Менску цяпер нязначнае; перашкодаю з'яўляецца тое, што многіе саюзы да гэтага часу не легалізованы.

— Агульны лік профэсыянальных саюзаў каля 20. Падалі просьбу аб зацьвярджэньні цэнтральнага бюро саюзаў.

— Балей усьпешна працуе саюз імя Сташыца—хрысьціянскіх рабочых.

— Ў рабочым доме час ад часу адбываюцца даклады, концэрты і вечарынкі.

## Хворасьць Янкі Купалы.

*(З гутаркі з д-рам Казубоўскім).*

Здароўе нашага песьняра з кожным днём папраўляецца. Ўжо ўсялякая небясьпека мінула.

Дактары кажуць, што можна спадзявацца, што Купала ў канцы гэтага месяца ўстане з пасьцелі.

## Я КАХАЎ...

Я кахаў... Ах. калісьці даўно я кахаў!
Аж тагды, калі моладасьць зьяла ў вачох,
Калі гора і смутку я, дужы, ня знаў,
І адвага кіпела ў грудзёх,—
Шчэ тагды, шчэ тагда я кахаў!..

Але зьбег і загінуў, як мара, той час:
Пагубляў я ўсе радасьці год маладых,
І жыццё, і сябе праклінаю ня раз...
А цяпер, як у небе пас зор залатых,
На шляху маем сьвеціць той час.

**Ул. Ж.**

Адрэс Рэдакцыі і Адміністрацыі:
**Менск, вул. Міцкевіча, Беларускі Дом** (быўш. Юбілейны).

Рэдакцыя адчынена **ад 11 да 1.** Адміністрацыя—**ад 9 да 2 і ад 5 да 7 у веч.**

Цана абвестак: 2 маркі за радок пэтыту (толькі па 4-ай страніцы).

**ПРЭНУМЭРАТА КАШТУЕ (з дастаўкай да хаты): на адзін год—24 м., на 6 мес.—12 мар., на 3 мес.—6 мар.**

Рэдактар і выдавец **Францішак Аляхновіч.** Літэратурны кіраўнік **Зьмітрок Бядуля.**

З дазв. вайсков. цэнзуры 8/1 1920 г., за № 43. Менск. Друкарня Інвалідаў.